*Парламент: фракцыя «Згода» падпісала «пратакол» з Іванам Ціцянковым (стар. 2)*
*Уладзімір Падгол пра новы гімн лу-публікі (стар.4)*

# СВАБОДА


Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93 000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

1 сакавіка 1996 г. | № 15 | Кошт свабодны


## Абяцанні выплаціць заробак спынілі акцыю пратэста

*Мужчыны з прафсаюзаў будуць чакаць у жаночы дзень прэзідэнцкі падарунак*

Пасля выступлення Лукашэнкі перад "працоўнымі калектывамі" 26 лютага прафсаюз аўтасельгасмашынабудавання перанёс прызначаную на мінулую сераду акцыю пратэсту. Кіраўнік прафсаюза, дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Бухвостаў на працягу некалькіх дзён у парламенцкіх кулуарах вымушаны быў даваць тлумачэнні настойлівым журналістам наконт гэтага рашэння.

Сапраўды, у панядзелак і аўторак адбыліся паседжанні прафсаюзных камітэтаў большасці прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у гэты прафсаюз. Амаль усе яны прагаласавалі за перанос акцыі. Матывы — абяцанне прэзідэнта да 8 сакавіка разлічыцца з запазычанасцямі па зарплаце, пастанова Кабінета міністраў аб тым, што перавод на дзяржаўную тарыфную сетку не будзе датычыць прадпрыемстваў гэтай галіны.

Абвінавачванні Лукашэнкі ў адрас прафсаюзаў аб стварэнні "штурмавых брыгад" Бухвостаў назваў "маньякальным бредом" і выказаў думку, што прафсаюзам варта запрашаць супрацоўнікаў КДБ на свае паседжанні. Бухвостаў нагадвае, што паводле беларускага заканадаўства, прафсаюзы не маюць права займацца палітычнай дзейнасцю, таму перанос акцыі пратэсту лічыць цалкам абгрунтаваным.

"Я на 95% загадзя быў упэўнены, што акцыя не адбудзецца. Гэта былі звычайныя гульні "афіцыйных" прафсаюзаў, якія баяцца сапраўдных выступленняў рабочых, — заявіў СВАБОДЗЕ Сяргей Антончык. — Цяпер яны выказваюць задавальненне ўжо тым фактам, што прэзідэнт, маўляў, убачыў іх праблемы. Але Лукашэнка проста не разумее эканоміку і кожны дзень яго знаходжання пры ўладзе цягне Беларусь назад".

Антончык з павагай ставіцца да асобы Аляксандра Бухвостава, аднак лічыць, што яму не даюць па-сапраўднаму праявіць сябе кансерватыўныя кіраўнікі прафсаюзных камітэтаў на прадпрыемствах. "Цяпер у псіхалогіі рабочых усё змяшалася. Настальгія па старых часах спалучаецца з няўпэўненасцю і недаверам да любой улады. Ёсць вялікае жаданне нешта змяніць, але людзі не ведаюць як. І тут "гульні" афіцыйных прафсаюзаў прынясуць толькі вялікую шкоду, бо адцягваюць увагу людзей ад сапраўдных мэтаў." — лічыць былы дэпутат Вярхоўнага Савета.

Сяргей Антончык упэўнены, што адмена акцыі мае і іншы бок праблемы. Сваёй кампраміснай дзейнасцю "афіцыйныя" прафсаюзы заўсёды выпускалі пару рабочых, але цяпер ідзе магутнае накапленне негатыўнай энергіі і гэта калі-небудзь можа скончыцца моцным сацыяльным выбухам.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Саюз мяча і арла

**Як "гістарычныя" і "паваротныя" падаюцца афіцыйнай прапагандай дамовы, заключаныя 27 лютага ў Маскве прэзідэнтамі Беларусі і Расіі.**

Згодна з традыцыяй, эпітэты найвышэйшай якасці прысвойваюцца, калі яшчэ ніхто не бачыў тэкстаў гэтых пагадненняў, а з рапартаў, якія агучвае беларускае тэлебачанне, ясна адно: зноў заключаны нейкі саюз з Расіяй, кіраўніцтва якой у захапленні даравала Беларусі яе запазычанасць "Газпрому" амаль у мільярд долараў.

Здаецца, апошняе і ёсць адзіны (бачны) вынік буйнейшага ў нашай гісторыі (пасля захопу Масквы Ілжэдзмітрыем) беларускага дэсанта на сталіцу Расіі. Лукашэнка, Чыгір, Мясніковіч, Ціцянкоў, Вінніkава — усе былі там (а хто ж заставаўся ў лаўцы?). Аглядальнік пераканаванія, што акрамя абвешчаных пагадненняў, быў заключаны нейкі пакт тыпу сакрэтнага пратакола "Рыбентроп-Молатаў", па якім расійскаму бізнесу гарантаваны правы на беларускую маёмасць (інакш "Газпром" не даў бы дазволу на спісанне беларускіх даўгоў). Таксама відавочна, што даравання запазычанасці зусім не вырашае нашых праблемаў. Напрыклад, на думку дэпутата Анатоля Лябедзькі, танныя энерганосьбіты з усходу даўно сталі своеасаблівым наркотыкам для нашай эканомікі, якая ў выніку не варушыцца, каб знізіць затраты і пазбавіцца ад энергетычнай залежнасці. Яна застаецца неэфектыўнай і таму праз год зноў давядзецца прасіць аб спісанні чарговага мільярда.

Дэкларатыўным бачыцца палітычны сэнс дамоваў. Аглядальнікі зауважаюць, што абодва прэзідэнты апынуліся ў цэйтноце. Адзін спяшаецца разыграць беларускую карту да выбараў 14 чэрвеня, другі — зрабіць тое самае з расійскай картай да чарговага рэферэндума і вясенніх страйкаў працоўных. Згодна з гэтымі мэтамі, абвешчаны саюз — папулісцкая дэкларацыя накшталт кебічаўскага "грашовага саюза", з дапамогай якога той спрабаваў сесці ў прэзідэнцкае крэсла Беларусі. Будзе цікава назіраць, як падобныя саюзы будуць заключацца ды ўзмацняцца да расійскіх выбараў штомесяц, а калі ў Крэмль прыйдзе новы гаспадар, высветліцца, што саспела новая інтэграцыя.

На думку многіх беларускіх палітыкаў, расійскі і беларускі прэзідэнты дагэтуль спадзяюцца перахітрыць адзін аднаго. Ельцын не любіць і баіцца Лукашэнку, у якім бачыць свайго канкурэнта па ўплыве на просты народ. Беларускі прэзідэнт, хаця і клянецца Ельцыну ў аддданасці, на самой справе паставіў на Зюганава і працуе на яго абранне, не пакідаючы і сваіх мараў аб славянскім прастоле. Абодва могуць дагуляцца да таго, што ў Крэмль прыйдзе Жырыноўскі і разбярэцца з "конюхам" па-свойму. Ва ўсякім разе такіх ганаровых прыёмаў Вольфавіч ладзіць не будзе.

Што ж тычыцца эканомікі, якая і ёсць родная маці палітыкі, то відавочна, што ў Расіі абвастрылася барацьба грошай. Ценявыя кланы мараць аб перадзеле ўжо разрабаванай імперыі. Беларусь у гэтай разборцы блытаецца пад нагамі і пакуль што мала каго цікавіць. Для Расіі даўно не стаіць пытанне, як праглынуць Беларусь, справа толькі ў тым, ці трэба гэта рабіць цяпер. Ельцыну да выбараў гэта не патрэбна. Пасля выбараў, калі ён пераможа, непатрэбным яму стане Лукашэнка.

Але пакуль мы бачым беларускага прэзідэнта ў расійскіх тэленавінах задаволенага, у спартовых трусах, з ракеткай і тэнісным мячом. Мяч надзьмуўся ад задавальнення, ён гатовы паляцець туды, куды яго пашлюць і спадзяецца вярнуцца. А побач двюхгаловы арол. Ён глядзіць у абодва бакі і робіць выгляд, быццам выдатна разумее, што адбываецца вакол яго...

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Шарэцкі паставіў помнік дзядзьку Кебіча

*Чытайце стар. 3*





## Багданкевіч збіраецца пайсці шляхам Пазьняка і Карпенкі

*Лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч збіраецца судзіцца з прэзідэнтам.*

"З прычыны шматлікіх абразлівых заяваў у мой бок, якія працягваюць паступаць ад грамадзяніна Лукашэнкі, я ўжо не бачу магчымасці разысціся з ім інакш, як праз суд", — сказаў Багданкевіч на прэс-канферэнцыі. Як вядома, былы старшыня Нацбанка доўгі час адмаўляўся ад магчымасці звярнуцца ў суд, заяўляючы журналістам, што "не трэба смяшыць людзей". Але, відаць, цярпенне лопнула: "Грамадзянін Лукашэнка пераступіў рысу, да якой можна было дараваць абразу. Мы ўсе не рабы, каб цярпець ягоныя здзекі. Я вымушаны бараніць сваю годнасць".

Як паведаміў Багданкевіч, падрыхтоўку да судовай справы з Лукашэнкам ён распачаў з таго, што запрасіў адваката, разам з якім складае адпаведны зыск у суд. Прычым лідэр АГП збіраецца патрабаваць ад прэзідэнта не толькі маральнай, але і матэрыяльнай кампенсацыі за абразы. "Сто мільёнаў, калі зыск будзе задаволены, дастанецца дабрачыннаму фонду "Дзеці ў бядзе", — сказаў сп.Багданкевіч.

Такім чынам, ён стане трэцім вядомым палітыкам сярод дэмакратаў, што збіраюцца прыцягнуць прэзідэнта да адказнасці за абразлівыя абвінавачанні. Да яго тое самае ўжо спрабавалі зрабіць Зянон Пазьняк і Генадзь Карпенка. Абедзве спробы скончыліся нічым. Хаця раённы суд задаволіў зыск Пазьняка (было прызнана, што Лукашэнка беспадстаўна абвінавачаў лідэра БНФ у тым, што ён нібыта заклікаў на мітынгу "ехаць ваяваць у Чачню"), Вярхоўны суд па ініцыятыве яго старшыні Караевая перагледзеў рашэнне на карысць прэзідэнта. А Карпенка, як мы ў свой час паведамлялі, некалькі разоў прыходзіў на судовае паседжанне, але так і не дачакаўся там ні Лукашэнкі, ні ягонага прадстаўніка. Паглядзім, ці ўдасца Багданкевічу "разысціся праз суд" з Лукашэнкам.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

ПАРЛАМЕНТ

# Усе дэпутаты роўныя. Але «Згода» раўнейшая за іншых

*Далучайцеся да фракцыі "Згода", і сам Ціцянкоў будзе ў вас на паслугах!*

Пакуль адныя дэпутаты з цяжкасцю дабіваюцца ад выканаўчай улады элементарнага выканання законаў, іншых парламентарыяў слухаецца нават сам Іван Ціцянкоў.

Здаецца, дзяржаўная электронная прэса ўжо дастаткова часу патрацілa на апісанне "гістарычнай" сустрэчы паміж фракцыяй "Згода" і кіраўніцтвам справамі прэзідэнта. Але цяпер да рэкламы сваёй глыбокай дружбы з прэзідэнцкім "заўхозам" падключылася і сама фракцыя. Днямі ў Вярхоўным Савеце ўсім парламентарыям былі раздадзены пратакол вышэйназванага сумеснага паседжання, падпісаны Іванам Ціцянковым і кіраўніком "Згоды" Уладзімірам Канаплёвым. Аказваецца, дэпутаты ад самай згоднай фракцыі ВС не толькі прыязна пагутарылі з кіраўніком справамі прэзідэнта, але і далі яго ведамству адпаведныя даручэнні.

Пад строгім позіркам "Згоды" апынулася большасць службаў кіраўніцтва справамі — усім ім дадзены канкрэтныя і рашучыя даручэнні. На працягу 10 дзён трэба стварыць "належныя санітарна-бытавыя ўмовы" у гасцініцы "Мінск", на працягу тыдня — выдзяліць нумары ў гасцініцы "Кастрычніцкая" для дэпутатаў, якія працуюць на сталай аснове. Дырэктару аўтапрадпрыемства ў дзесяцідзённы тэрмін "унесці прапановы" аб павелічэнні колькасці службовых аўтамабіляў для абслугоў-



Думай, Ваня, думай!

вання дэпутатаў, начальніку ўпраўлення лячэбна-прафілактычных і санаторных установаў — у дзесяцідзённы тэрмін замацаваць дэпутатаў за "лечкамісіяй" і арганізаваць іх медыцынскае абслугоўванне. Самому кіраўніцтву справамі даручана ў месячны тэрмін "рашыць сумесна з адміністрацыяй прэзідэнта" пытанне аб выдзяленні дэпутатам памяшканняў з тэлефоннай сувяззю ў іхніх выбарчых акругах.

Карацей, усё што пажадае дэпутацкая душа пад лозунгам *"Ціцянкоў і "Згода" думаюць пра Вярхоўны Савет"*. Аднак асобныя няўдзячныя парламентары не ацанілі ўсю шырыню ціцянкоўска-канаплёўскай дабрадзейнасці. Напрыклад, Станіслаў Шушкевіч назваў гэта "смехам" і "глупствам". *"Гэта ганьба, калі дэпутаты не ведаюць, чым ім трэба займацца"*, — гаворыць Шушкевіч, падкрэсліваючы, што падобныя пытанні павінны вырашаць гаспадарчыя службы. А Аляксандр Дабравольскі лічыць гэты "пратакол" *"аплявухай кіраўніцтву парламента і ўсяму Вярхоўнаму Савету"*. Дабравольскі абураны ненармальнай практыкай, калі адна фракцыя ад імя ўсяго парламента дае даручэнні выканаўчым органам улады.

Паколькі ў нас усе дэпутаты роўныя, то цяпер, напэўна, кожная фракцыя можа даваць свае ўласныя даручэнні ведамству Ціцянкова. Камуністы, напрыклад, загадаюць вывесіць ва ўсіх кабінетах партрэты Маркса, а лепшы будынак сталіцы аддаць газеце "Товарищ". Аграрыі, відавочна, перададуць урадавыя "Мерседэсы" на баланс адстаючых калгасаў, а апарат кіраўніцтва справамі адправяць на пасяўную. Трэба думаць, усе гэтыя і любыя іншыя пажаданні фракцыяў Ціцянкоў выканае з вялікім выканаўчым імпэтам.

Калі ж гаварыць сур'ёзна, то з'яўленне "пратакола" ні ў якім разе нельга лічыць толькі спантаннай дэманстрацыяй "Згодай" сваёй узаемнай любові з выканаўчай уладай. Відавочна, што гэта — превентыўны ход Ціцянкова напярэдадні стварэння дэпутацкай камісіі па кіраўніцтву справамі. "Заўхоз" як бы гаворыць дэпутатам: "Я вам тэлефоны ў кабінеты і машыны каля пад'езда, а вы мяне за гэта пакіньце ў спакоі". А "Згода" падпявае: "Навошта з ім канфліктаваць, з ім лепш сябраваць". Па некаторых звестках, "Згода" збіраецца ўвесці як мага больш сваіх людзей у "камісію Ганчара", якая будзе разглядаць дзейнасць кіраўніцтва справамі.

Карацей, на абарону "прэзідэнцкай гаспадаркі" кінуты ўсе магчымыя сродкі. А абараняць, ведама ж, ёсць што. Бо пра кіраўніцтва справамі ўжо можна складаць анекдоты. Напрыклад такі: злавіў Ціцянкоў залатую рыбку і гаворыць ёй: "Чаго табе трэба, рыбка?".

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Разам з дачным фундаментам Ганчар пазбавіўся страху

**Віктар Ганчар застаецца ў цэнтры журналісцкай увагі**

Новы віток цікавасці да яго забяспечыў прэзідэнт А.Лукашэнка, які ў сваёй прамове на вядомай сустрэчы з прадстаўнікамі працоўных калектываў выліў ужо на галаву Ганчара "пятнаццаць абвінавачванняў". Набор вядомы: 300-тысячны крэдыт, атрыманы ў 1991 годзе па курсе 70 капеек за долар, ажно тры катэджы, пабудаваныя за народныя грошы... Прыведзены быў і красамоўны доказ усяму сказанаму: "А вы думаеце, чаго яны паднялі вэрхал вакол аб'яднання банкаў? Бо пачалі вылазіць паперы, у якіх яны не зацікаўленыя".

Гэты "жалезны", на думку Лукашэнкі, аргумент, выклікаў усмешку ў Віктара Ганчара. Журналістам у кулуарах парламента ён выказаў здзіўленне тым, як кепска стаў апошнім часам рыхтавацца прэзідэнт да сваіх абвінавачванняў. На самой справе, па словах Ганчара, гаворка ідзе пра невялікі крэдыт, якога хапіла, толькі каб пабудаваць фундамент на дачным участку. Паколькі ні сродкаў, ні часу працягваць будаўніцтва ў В.Ганчара не было, фундамент разам з зямлёй ён прадаў свайму сябру А.Быкаву і канчатковa пагасіў крэдыт у 1993 г..

Сутнасць гэтай гісторыі добра ведае прэзідэнт, але цяпер, па словах В.Ганчара, наўмысна скажае факты ў патрэбны яму бок. Выступаючы 28 лютага на сэсіі ВС дэпутат Ганчар запатрабаваў ад Генеральнага пракурора "узбудзіць крымінальную справу супраць прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за паклёп, спалучаны з абвінавачваннямі ў здзяйсненні цяжкага злачынства, бо, па ягоных словах, я абрабаваў родны народ на 200 тысяч долараў".

Акрамя таго Ганчар заявіў: "Я афіцыйна інфармую і дэпутатаў, і грамадства, што звярнуся з зыскам у суд на суму 200 тысяч долараў і ўлічваючы, што я бясспрэчна гэты зыск выйграю, то я перадаю гэтыя сродкі на разліковы рахунак Маладзечанскага дзіцячага дома, куды пералічваў усе свае ганарары".

Ганчар таксама сказаў, што, "калі паважаны прэзідэнт знойдзе мой катэдж, я тут жа афармлю яму дарчую, бо ён неадназова падкрэсліваў, што ён "совершенно нищий".

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Калякін «не разумее»

**Лідэр камуністаў Сяргей Калякін заявіў, што ягоная партыя не падтрымлівала Аляксандра Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах і што цяпер супрацоўніцтва з прэзідэнтам магчымае толькі на аснове дакладнага выканання Канстытуцыі і законаў.**

Выступаючы ў Магілёве на справаздачна-выбарчым сходзе мясцовай арганізацыі камуністаў, таварыш Калякін сказаў таксама, што ў абароне законнасці кампартыя гатовая супрацоўнічаць з любымі палітычнымі сіламі. Лідэр парламенцкай фракцыі аграрыяў шанцы Тамары Віннікавай атрымаць пасаду старшыні Нацбанку як мінімальныя. Кіраўнік ПКБ лічыць, што шукаць крыніцы эканоміі дзяржаўнага бюджэта трэба ў артыкулах, па якіх фінансуюцца сілавыя структуры. Ён прывёў лічбы: на кожную 1.000 жыхароў Беларусі людзей са зброяй і ў форме ў нас удвая больш за Расію, і ў чатыры разы больш за Польшчу. Таварыш Калякін "не разумее", дзеля чаго такая ўзброенасць нашай краіне.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Алгарытм барацьбы дыктуе гістарычная традыцыя

*Куды крочаць беларускія сацыял-дэмакраты*

У Еўропе, якая зараз ідзе да трансіндустрыяльнага перыяду сваёй гісторыі, сацыял-дэмакраты сталі тымі драждажамі, на якіх падняўся заходні пірог дабрабыту і сацыяльнага міру. "Мы падтрымліваем гэты грамадскі лад без усякіх "але" і "калі", — гэтая славутая цытата з Вілі Брандта магла б стаць эпіграфам да размовы, якая днямі адбылася паміж журналістамі і дэпутатамі сацыял-дэмакратычнай фракцыі "Саюз працы" ды лідэрамі саюзу трох партый.

Дык хто яны сёння, нашая сацыял-дэмакраты? Які алгарытм сацыяльнай барацьбы прапануюць беларускаму грамадству?

## «Мы пра сябе ўжо заявілі»

Так сцвярджае лідэр фракцыі дэпутат Леанід Сечка. Першыя вынікі дзейнасці сацыял-дэмакратаў у парламенце сапраўды неблагія. Удалося не проста аб'яднацца, а перавесці прадвыбарчы саюз у стадыю нармальнай парламенцкай працы. Нават пасля падзелу партфеляў удалося захаваць добры мікраклімат унутры фракцыі. Стала магчымым пашырыцца, запрасіўшы да супрацоўніцтва шэраг вядомых палітыкаў. Пры гэтым удалося ні з якой з фракцыяў не пасварыцца. Без асаблівых страт прайшла і змена шыльды ("Беларусь" на "Саюз працы"). Сам факт гэтай змены сведчыць аб здольнасцях улічваць палітычную кан'юнктуру. Але галоўнае, што фракцыя дакладна вызначыла сваю сацыяльную базу — людзі наёмнай працы. Чым жа дэпутаты-эсдэкі збіраюцца здабыць сабе сімпатыі большасці беларускага грамадства?

## Адвакаты рабочага руху

Як запэўнівае адзін з відных дзеячоў фракцыі дэпутат Уладзімір Нісцюк, сацыял-дэмакраты адрозніваюцца сваім інтэлектуальным патэнцыялам, што і разглядаюць у якасці казырнай карты. Сярод 18 членаў "Саюза працы" сапраўды ёсць некалькі прафесійных навукоўцаў, але большасць складаюць усё ж тыя, хто някепска засвоіў іншую навуку — кіраваць (кантраляваць, пільнаваць і г.д.). У гэтым сэнсе дарэчы будзе ўзгадаць прозвішчы Сечкі, Краўчанкі, Жушмы, Грыба, Нісцюка, Хрола ды інш. Наўрад ці такія салідныя мужы калі-небудзь зноў пойдуць у народ, як зрабіў нядаўна Сяргей Антончык. Не варта чакаць, што яны паспрабуюць стаць на чале рабочага руху, каб заручыцца галасамі простых людзей.

І ўсё ж сацыял-дэмакратам прыйдзецца шукаць свае сцежкі да прахадных прадпрыемстваў. Яны ўжо заяўляюць аб наладжанні кантактаў з прафсаюзамі, у тым ліку незалежнымі. А той жа Уладзімір Нісцюк ужо атрымаў сумны вопыт кантактаў з адміністрацыяй метрапалітэнаўскага дэпо, дзе спрабаваў правесці сход незалежных прафсаюз. Зараз Нісцюк дапамагае працоўным абараніць іх правы і звяртаецца, як дэпутат, у Пракуратуру. Гэта красамоўны прыклад, які сведчыць, што эсдэкі маюць шанцы стаць калі не арганізатарамі, то адвакатамі незалежнага рабочага руху. Поспех будзе залежыць ад таго, ці змогуць яны абаперціся на структуры сваіх партыяў. Па словах лідэра "Грамады" Мікалая Статкевіча, пашырэнне партыйных структураў, хоць з пэўнымі цяжкасцямі, але ідзе. Хутка ў свет выйдзе нават свая сацыял-дэмакратычная газета.

Увогуле сацыял-дэмакраты ўпэўненыя, што палітычная страва, якую яны прапануюць, — з беларускай кухні. І гістарычны вопыт, і сённяшнія тэндэнцыі да вельмі паступовага пераўтварэння у сапраўды рынкавую краіну, спрыяюць поспеху сацыял-дэмакратаў у Беларусі. Між іншым, краінаў СНД толькі ў нас эсдэкі маюць такую ўплывовую фракцыю ў парламенце.

## Паміж Сцылай і Харыбдай

Апынуўшыся паміж камуністамі і лібераламі, якія бышцам спаборнічаюць у аптымістычных прагнозах адносна сваіх перспектываў, нашая сацыял-дэмакраты не збіраюцца нікому саступаць месца пад сонцам, а нават разлічваюць пашырацца за кошт суседзяў. "Фракцыя камуністаў у сённяшнім выглядзе больш года не праіснуе, жыццё дакажа, што артадаксальныя ідэі не маюць шанцаў на здзяйсненне. Камуністаў чакае раскол," — упэўненыя многія сацыял-дэмакраты.

Цікавыя адносіны "Саюза працы" да лібералаў. Па большасці пытанняў яны з "Грамадзянскім дзеяннем" саюзнікі. Але эсдэкі ўпэўнены, што будучыя перамогі на шляху рэформ непазбежна развядуць фракцыі па розныя бакі палітычных барыкад. Ёсць прынцыповыя супярэчнасці ўжо і сёння. "Як і камуністы, лібералы хацелі б вырашыць усе праблемы адразу, атрымаўшы ўладу не кавалкамі, а ўсю цалкам у прэзідэнцкім партфелі", — кажа дэпутат Пётр Жушма. У сацыял-дэмакратаў іншы шлях. Яны за паступовасць як у рэформах, так і ў набыванні сваёй магутнасці. Што тычыцца інстытута прэзідэнцтва ў Беларусі, па ўсім бачна, што калі эсдэкі і падтрымаюць існаванне гэтага інстытуту, дык толькі ў слабым, нямецкім варыянце.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# У падатковай інспекцыі перабудова

**Новы падатак, на маёмасць, будзе ўведзены ў хуткім часе ў краіне. Пра гэта паведаміў шэф падатковай інспекцыі Беларусі Мікалай Дзямчук, выступаючы на нарадзе работнікаў мясцовых падатковых інспекцый.**

Сп.Дзямчук сказаў, што цяпер 89 % паступленняў у бюджэт даюць падаткі, сабраныя ягонай установай, але трэба тэрміновa мяняць 24 законы, каб гэтую лічбу давесці да 100 %. Ён таксама паведаміў, што з Бабруйска пачынаецца перабудова ў структуры падатковай службы краіны. У гарадах, разбітых на раёны, дзе дагэтуль існуюць раённыя інспекцыі, іх аб'яднаюць у агульнагарадскія. Пры гэтым, па словах М.Дземчука, мяняцца колькасць супрацоўнікаў не будзе, як і заробак.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Фірма, якую любілі чыноўнікі

**Днямі супрацоўнікі сталічнага ўпраўлення падатковых расследванняў затрымалі дзве маладыя сямейныя пары з Мінска, якія за пэўны працэнт аказвалі паслугі ў абнаўляванні і канвертацыі беларускіх рублёў, "перапампаваўшы" толькі за апошнія шэсць месяцаў 2 млн. долараў.**

Следчы мінскага ўпраўлення падатковых расследванняў, які прасіў не называць ягонае імя, паведаміў карэспандэнту СВАБОДА, што гэтыя аферысты (дзеці даволі высокіх сённяшніх начальнікаў) трымалі фірму на падстаўных асобаў. Цікава ў гэтай гісторыі таксама тое, што паслугамі фірмы карысталіся пераважна дзяржаўныя прадпрыемствы і ўстановы. У прыватнасці, атрымалі "жывыя" долары на рукі чыноўнікі Мінскага камбіната панэльнага домабудавання № 3, "АўтаВАЗа-запчасткі", НДІ "Агат", а таксама бальніцы, паліклінікі, домаўправы і нават вайсковых часць. За адзін працоўны дзень фірма мела ад 300 да 1.000 долараў дывідэндаў (у залежнасці ад сумы здзелкі). Як сказаў следчы, чыноўнікі "пералічвалі дзяржаўныя грошы нібыта за выкананую працу, а на самай справе абнаўлівалі іх і клалі ў сваю кішэнь".

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

СВАБОДА
1 сакавіка 1996 г., № 15

# Шарэцкі паставіў помнік дзядзьку Кебіча

**На могілках вёскі Цябуты Валожынскага раёна стаіць помнік роднаму дзядзьку Кебіча — Аляксандру Рыжэвічу — першаму старшыні тутэйшага калгаса. Ушанаваў у граніце гэтага калгаснага дзеяча не вядомы пляміннік, а сённяшні спікер парламента С.Шарэцкі, які ў 1984-91 гады кіраваў тут калгасам "Чырвоны сцяг". Пра гэты ўчынак сп.Шарэцкага рэдакцыя СВАБОДЫ даведалася з чытацкага ліста, бо нашы гісторыкі яшчэ пакуль не адвялі пэўнага месца А.Рыжэвічу ў летапісе калгаснага будаўніцтва Заходняй Беларусі.**

*"Калі ў 1949 годзе ў вёсцы Цябуты пачыналі ствараць калгас, — піша аўтар пісьма ,— людзі яшчэ не ведалі, як там добра жывецца, але ўсё роўна ісці туды не хацелі. У актыў калгаса ўваходзілі людзі, якія за душой нічога не мелі — ні каня, ні каровы, ні ваза. Аднак у іх было вялікае жаданне пажыць надурніцу. Асабліва сярод калгаснага актыву вызначаўся яго старшыня Рыжэвіч — дзядзька Кебіча. Шмат людзей ён "раскулачыў" і ў Сібір выслаў, а маёмасць іх прыбіраў сабе да рук і прапіваў разам з сябрамі-актывістамі. Добра, што знайшоўся адзін прыстойны чалавек, які застрэліў Рыжэвіча (але, на жаль, і сам загінуў у перастрэлцы з НКВД). Больш падрабязна пра Рыжэвіча вам могуць расказаць старыя жыхары гэтай вёскі".*

Вёска Цябуты, якую нядаўна наведаў карэспандэнт СВАБОДЫ, знаходзіцца ў 10-ці кіламетрах ад Валожына. Яна, як і большасць навакольных вёсак, дзесяць гадоў таму увайшла ў склад узбуйненнага калгаса, які быў створаны "пад Шарэцкага". Усе даходы гэтага гіганта савецкай сельгасвытворчасці пайшлі ў асноўным на добраўпарадкаванне цэнтральнай сядзібы, а іншым вёскам давалася тое, што заставалася. Таму галоўнымі славутасцямі Цябутаў з'яўляюцца асфальтаваная вуліца, цагляная крама, невялічкая ферма і могілкі, дзе і стаіць помнік дзядзьку Кебіча.

Жыхар вёскі 94-гадовы **Станіслаў Радына**, узгадваючы пра Аляксандра Рыжэвіча, спачатку махнуў рукою, а потым разгаварыўся: "Рыжэвіч быў зусім неадукаваным чалавекам. Але саветы зрабілі яго начальнікам калгаса. Людзі запісвацца ў той калгас не хацелі, дык ён іх туды сілком гнаў. Хто ўпіраўся, таго садзіў у турму. Ад Рыжэвіча тады пацярпеў Рыгор Шчарбацэвіч, які быў працавітым чалавекам, гаспадаром, а яго зрабілі кулаком і загналі ў Сібір. Вось як. За гэта і забілі Рыжэвіча. Нехта праз акно стрэліў, калі ён праводзіў сход."

Ёсць што ўспомніць і 82-гадоваму **Альфонсу Лужынскаму**, які з "ласкі" Рыжэвіча тры гады валіў лес у тайзе: "Рыжэвіча я ведаў амаль з маленства. Ён прыходзіўся родным братам маці гэтага Кебіча. Я памятаю, як рабілі яго старшынёй калгаса. А было так. Рыжэвіч разам з братам і шваграм абрабавалі на лясной дарозе аднаго селяніна з суседняй вёскі Дубіна. Ён ехаў з Мінску з базара і яны забралі ў яго ўсё, што той купіў. Органы неяк дазналіся пра гэта і выклікалі Рыжэвіча ў Валожын на допыт. Я сам тыды вазіў яго на кані ў горад, дзе праждаў цэлы дзень. Пасля даведаўся, што ў НКВД пабяцалі яму закрыць гэтую справу, калі ён падлішацца стварыць у Цябутах калгас. Ён пагадзіўся. Ох, і лютаваў жа Рыжэвіч, зусім не шкадаваў людзей. Памятаю, для маладой дзяўчыны Галі Шчарбацэвіч, якая адмовілася запісвацца ў калгас, даў заданне: вывезці з лесу на кані 150 куб. м. лесу. Яна з планам не справілася і яе судзілі. Чалавек пяць ён так пасадзіў. А дабро іхнае забіраў сабе, быццам для калгаса."

**Яніна Лужынская**, успамінаючы той час, прыгадала наступнае: "Я была на пахаванні Рыжэвіча. Дык, ведаеце, па двару немагчыма было прайсці — столькі там было рознага дабра. Памятаю ў сенцах мёд стаяў дзежкамі, дошкі ляжалі... Усё гэта было не яго, а людское. У Антона Красоўскага , я памятаю, ён карову сабе забраў."

Мінула сорак гадоў з дня смерці Рыжэвіча і за гэты час ніхто з былых калгасных кіраўнікоў не ўспомніў пра першага старшыню. А вось Сямён Шарэцкі вырашыў увекавечыць памяць дзядзькі Вячаслава Кебіча.

У лістападзе 1991 года на ўрачыстае адкрыццё помніка Рыжэвічу, які быў зроблены за калгасныя грошы і па эскізах калгаснага архітэктара, старшыня калгаса Сямён Шарэцкі запрасіў, безумоўна, і прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Вячаслаў Францавіч быў вельмі задаволены такой увагай-павагай да свайго продка. Сп.Шарэцкі, як напісала тады Валожынская раённая газета "Працоўная слава", выступіў з прамовай: *"Мы цяпер жывем у цяжкі, трывожны і супярэчлівы час. Прыклады такіх людзей, як Аляксандр Рыжэвіч, павінны натхняць нас на пошук шляхоў, каб дастойна выйсці з гэтага складанага часу, не зганьбіць справу, якой служыў і аддаў сваё жыццё Аляксандр Рыжэвіч".*

Праз нейкі час пасля гэтага Сямён Шарэцкі ўжо стаў эканамічным дарадцам Кебіча, а калгас "Чырвоны сцяг" распаўся на чатыры дробныя гаспадаркі.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**



# Урокі Будапешта і Прагі не забываюцца

## *Натаўская дубінка ў руках беларускага галоўнакамандуючага*

Савецкіх людзей, як вядома, заўсёды палохалі блокам *NATO*, каб яны не задумваліся над уласным лёсам, дыбрабытам, жылі з пачуццём страху. Цяпер натаўскай тэмай спрабуюць адцягнуць увагу беларусаў ад фатальнага становішча, у якім яны апынуліся. Прэзідэнт так і гаворыць па тэлевізары: "Народ наш спаць не можа спакойна, бо супраць пашырэння *NATO* на ўсход". Гаворыць ён пра гэта так часта, што атрымліваецца, быццам важнейшай за гэтую праблемы для нас не існуе. А народу *NATO* "да лямпачкі". Народ супраць жабрацтва.

Можна, канечне, зразумець тых стратэгаў і тактыкаў, якія мысляць сёння катэгорыямі накшталт звышзадачы колішняй Беларускай вайсковай акругі. Яны ўяўляюць сябе гэткімі героямі-панфілаўцамі, за спіной якіх Масква, а спераду — нямецкія танкі. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, вайсковая дактрына нейтральнай краіны не патрабуюць ад іх абараняць Маскву. Але ім вельмі хочацца, бо інакш нецікава жыць, паколькі які-небудзь югаслаўскі сцэнар на глебе варожасці паміж праваслаўнымі, каталікамі і мусульманамі ў нас пакуль ажыццявіць ніяк не ўдаецца. Відавочна, што ўсе гэтыя стратэгі на чале з галоўнакамандуючым мысляць выключна інтарэсамі Крамля, для якога не існуюць інтарэсы меншых, а тым больш зусім невялікіх дзяржаў. Таму я паспрабую глянуць на праблему з пункту гледжання апошніх. Балазе мне дазваляе гэта зрабіць знаходжанне Гродна на сутыку межаў Беларусі, Польшчы і Літвы.

Гістарычна Усходняя Прусія была заўсёды аплотам нямецкай агрэсіі супраць Польшчы, Беларусі, Літвы. У Грунвальдскай бітве ім удалося моцна паслабіць крыжакоў. Але ў канцы 18 ст. Прусія зноў адыграла каварную ролю ў лёсе супольнай для нашых трох народаў дзяржавы — Рэчы Паспалітай: падзяліла яе разам з Расіяй і Аўстрыяй. У 1938-39 гг. Усходняя Прусія зноў выканала ролю плацдарму для нямецкай агрэсіі. Спачатку у Літвы адабралі Клайпедскі край, а потым Гітлер са Сталіным падзялілі ўсе астатнія тэрыторыі. Між іншым, Літву Сталін здолеў захапіць, хоць яна не мела спачатку нават агульнай з СССР мяжы.

Мне могуць запярэчыць, што я не арыентуюся ў сучасных геапалітычных рэаліях, якія змяніліся пасля 1945 года, і не варта апірацца на гістарычныя аналогіі. Аднак Усходняя Прусія (сённяшняя Калінінградская вобласць РФ) па-ранейшаму засталася парахавой бочкай. Розніца толькі ў тым, што яе ахоўвае не нямецкі, а расійскі салдат. Палякі і літоўцы баяцца яе як агню. Калі расійскую армію вывозілі з Германіі, то, паводле польскай прэсы, у Калінінградскай вобласці адзін час знаходзілася прыблізна 400-тысячная групоўка Узброеных сіл Расіі. А гэта значна перавышала колькасць усяго Войска польскага. Сутнасць гэтай часткі Расіі як месца канцэнтрацыі марскіх і сухапутных базаў побач Скандынавіі і Польшчы застаецца ранейшай. Расіяне на месцы палякаў, безумоўна, не пацярпелі б пад бокам у сябе знаходжанне гэткай парахавой бочкі. Дзе ні плюнь, там будзе закапаны ракета або танк. Вядома ж, у сапраўдных інтарэсах Расіі дбаць пра далейшае стварэнне вольнай эканамічнай зоны ў гэтай адрэзанай ад метраполіі тэрыторыі. Але сур'ёзных інвестараў, напэўна, не можа не палохаць вялікая колькасць войска ў гэтым рэгіёне.

Не менш за палякаў баяцца агрэсіі літоўцы, заціснутыя паміж Калінінградскай вобласцю і Беларуссяй, на тэрыторыі якой таксама пакуль кватэруе расійская армія. Літоўцы вырашылі ў вайсковай галіне абапірацца на рэальна моцную суседку — Польшчу. Менавіта Вільня ініцыявала ў апошнія гады ўзаемныя візіты міністраў абароны і абмен вайсковымі дэлегацыямі. Літоўцы шукалі згоды палякаў на стварэнне супольнага батальёна ААН. Аднак, па-першае, палякі дбаюць перадусім пра свае інтарэсы ў вайсковай галіне, а па-другое, здольныя ўтрымліваць чыста польскія адзінкі падобнага прызначэння. Літоўцы мусілі задаволіцца ўдзелам у супольным з латышамі і эстонцамі Балтыйскім батальёне. Але характэрна, што вайсковыя сувязі з палякамі яны імкнуцца пашыраць пры кожнай нагодзе. Напрыклад, летась на супольныя вучэнні палякаў і немцаў, якія праводзіліся ў заходніх раёнах Польшчы ў рамках натаўскай праграмы "Супрацоўніцтва дзеля міру", літоўцы прыслалі ўласны ўзвод. Каб забяспечыць свой хоць невялікі, але ўдзел.

Крэмль, па-сутнасці, не прызнае за прыбалтамі або палякамі права мець гарантыі абароны перад магчымай небяспекай. Маўляў, будуць нас заўсёды баяцца, будуць і паважаць. Аднак гісторыя літоўцаў і палякаў навучыла: з расіянамі разнявольвацца не варта, пра што ўскосна нагадаў новы міністр замежных справаў Прымакоў, сказаўшы, што Масква не збіраецца насылаць на палякаў свае танкі. Палякі адрэагавалі вельмі балесна. Калі ён так сказаў, значыцца, дапускаў падсвядома падобную магчымасць, — гавораць яны.

Між іншым, вельмі красамоўны той факт, што прэзідэнт Квасьнеўскі першы свой рабочы візіт на новай пасадзе зрабіў у авіяполк "Варшава", каб сустрэць з афіцэрамі Каляды. Кватаруе гэты полк у Мінску-Мазавецкім і кантралюе паветраную прастору ў напрамку Калініградскай вобласці, а таксама і Беларусі. Летась гэты авіяполк наведалі амерыканцы, каб вызначыць парадак ягонага пераўзбраення. Састарэлыя "МІГі" будуць заменены "Фантомамі". Палякі дакладна запомнілі, што ў 1920 годзе іхную дзяржаву ўратавала ад расійскіх бальшавікоў Антанта, таму сёння ім так хочацца далучыцца да *NATO*.

Наш новы спікер думае пра *NATO* прыблізна тое ж самае, што і прэзідэнт. Маўляў, два вайсковыя блокі былі створаныя падчас халоднай вайны дзеля ўзаемнага супрацьстаяння, а пакольі Варшаўскага дагавора ўжо няма, дык і *NATO* зрабілася анахранізмам. Так яго пашыраць можна хоць да Сахаліну, а гэта, паводле С.Шарэцкага, абсурд. Мае ён у нечым рацыю. Але, як вядома, Варшаўскі дагавор быў створаны толькі праз некалькі гадоў пасля *NATO*. Сталіну, мабыць, такая арганізацыя была непатрэбная. Яму хапала таго, што трымаў войскі ў Аўстрыі ды Германіі. Ды і ўмовы тады ў Цэнтральнаеўрапейскіх краінах, напэўна, яшчэ не адпавядалі такому кроку. Гэта адно. А па-другое, Варшаўскі дагавор разваліўся сам, як і гэтак званы Савет эканамічнай узаемадапамогі. Бо пакінуць яго жадалі краіны, якія былі змушаныя да ўдзелу ў ім. Натаўскія войскі абаранялі дэмакратыю, прыватную ўласнасць, суверэннасць заходніх краін, а савецкі блок бараніў ідэалогію і падпарадкаванасць Маскве цэнтральнаеўрапейскіх дзяржаваў. Каб *NATO* будавалася на падобных прынцыпах, яно развалілася б разам з Варшаўскім дагаворам. Аднак пакуль ні адна з краінаў-удзельніц Паўночнаатлантычнага блоку не заявіла аб сваім выхадзе. Наадварот, ад ахвотных няма адбою.

Прычына гэтай з'явы ў тым, што амерыканцы, якія пануюць у *NATO*, нікому ў Еўропе, а тым больш у Цэнтральнай і Усходняй, не зрабілі крыўды. Яны ні разу не заваёўвалі гэтых краін, не пазбаўлялі іх незалежнасці, а вось жалезныя абдымкі Масквы, якая стварыла Варшаўскі дагавор для абароны сваіх стратэгічных інтарэсаў, краіны ўдзельніцы памятаюць добра. Памылка Масквы была ў тым, што яна ў 1945 годзе, вызваліўшы гэтыя краіны з-пад нямецкай няволі, навязала няволю сваю. У гэтым і заключаецца з аднаго боку нежыццёвасць былога Варшаўскага дагавору, а з другога, канфліктнасць сітуацыі вакол пашырэння *NATO* на ўсход.

Штаб войскаў Варшаўскага дагавору, аднак, дагэтуль існуе пад Масквой, але кантралюе войскі краінаў СНД. Беларусі ў штабных гульнях, мяркуючы па ўсім, адведзена роля камікадзэ, небяспечнасць якой, мабыць, не разумее наш галоўнакамандуючы. Раззбраенне, бязядзернасць, наш нейтралітэт ён перакрэслівае ваяўнічымі заявамі, абяцаннем вярнуць назад вывезеныя ў Расію ракеты з ядзернымі боегалоўкамі. Так ці інакш, краіны, якія атачаюць нас з трох бакоў — Літва з Латвіяй, Польшча, а таксама і Украіна, якой расіяне не даюць спакою з чарнаморскім флотам — усе яны, але па-рознаму, сімпатызуюць *NATO* як гаранту бяспекі ўсіх краін, якім пашанцавала ўдзельнічаць у пакце.

На мой погляд, Швейцарыя — прыклад нейтральнай краіны, якая жыве як у Хрыста за пазухай у акружэнні трох натаўскіх краін. Вось і Беларусь магла б апынуцца ў прыкладна падобным становішчы. Але для гэтага нашы палітыкі павінны плюнуць на чужыя гульні і пачаць сваю. Такіх палітыкаў мы пакуль не маем.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

СВАБОДА
1 сакавіка 1996 г., № 15

**Владимир ПОДГОЛ,**
*доцент, кандидат философских наук*

# Не пойте нам военных песен

## О новом гимне лу-публики



Общеизвестна истина, что сначала стреляют слова, а потом уже пушки. Если отвлечься от большой политики и настоящих войн, то подтверждение стреляющей истины — в расстреле российского парламента и предшествовавших ему словесных баталиях, избиении депутатов оппозиции ВС Беларуси и словесном расстреле до этого президентом и членами его команды этого парламента.

В течение нескольких месяцев информационные танки официальных СМИ давили своими словесными гусеницами идею парламентаризма в умах избирателей. Но, несмотря на это, идея необходимости представительного органа власти пробилась сквозь асфальт зомбирующей информации и материализовалась в ВС 13-го созыва.

Новые депутаты учли опыт своих предшественников и начали работу на принципах нового мышления. Все поняли, что абсолютной победы в парламенте не одержать никакой фракции, а фракционная война приведет к гибели парламента и победе прямого президентского правления.

В общем, новая парламентская метла начала мести методом консультаций, компромиссов, взаимного уважения противоположной точки зрения, конструктивного диалога. Из ВС были выметены склоки, раздоры, митинговщина; коридор правового поля оказался расчищенным. В нем депутаты начали взращивать новые законодательные акты.

Но если сорняки вырваны с корнями, то непременно ветер начнет заносить их с других неухоженных полей. А то и оттуда, где только и занимаются тем, что выращивают мутантов, предназначенных задушить молодые ростки демократии.

Первый ветер подул непосредственно с президентского поля — с участка помощника президента Посохова. На почве, удобренной догмами холодной войны, он взрастил идею и запустил ее в мозги читателей государственных газет в своем интервью "Не сходить с точки реальности".

Цитирую:

*"Корреспондент: Сергей Алексеевич! В последнее время в парламенте лидеры ряда политических партий-антиподов часто выступают с совместными заявлениями. Как вы считаете, это является признаком консолидации политических сил в высшем законодательном органе страны?*

*Посохов: Конечно же, нет. В английском парламенте уже несколько лет популярна пословица: если дружба в парламенте — то баррикады на улицах. В нормальном парламенте обязательно должны быть представлены депутаты различных политических воззрений, и все споры и противоречия должны решаться в зале заседаний народных избранников. Убежден, что нынешний компромисс между левыми и правыми возникает отнюдь не на деловой, принципиальной основе... Невозможность найти компромисс между двумя диаметрально противоположными взглядами наводит на мысль о том, что подписи идеологических антиподов... есть результат политических торгов".*

Если следовать логике советника президента, то парламент в принципе не может принять ни одного закона! Ведь там примерно в равной пропорции представлены партии с разновекторными идеологиями. А если продолжить рассуждения в том же духе, то неизбежно придешь к выводу, что парламент для того и создается, чтобы собраться, поругаться и... оказаться разогнанным. Не для прямого ли президентского правления? Вот только эти непонятливые депутаты нарушили приготовленный для них порядок, да нашли способ мирно работать.

Откровения полковника Посохова типа "невозможность компромисса между двумя противоположными взглядами" представляют собой реанимированный идеологический снаряд времен холодной войны. Если главы США и СССР (куда уж противоположнее!) не смогли бы в свое время договориться о спасении мира, и начать ядерное разоружение, то не исключено, что не было бы ни президента Лукашенко, ни советника Посохова, ни белорусского парламента и иже с ними других стран, а царило бы идеальное кладбищенское согласие и "прямое президентское правление" на всем земном шаре. Не "батьки", правда, а старухи с косой.

Точно так, как в двадцатые годы были уничтожены все ленинцы, делавшие революцию, в интервью Посохова-коммуниста сделан первый идеологический выстрел в лидеров компартии. Уничтожать Калякина начали тем же способом, как в свое время Пазьняка. Когда-то простые граждане Беларуси узнали от коммунистических идеологов, что отец Пазьняка якобы служил полицаем (хотя на самом деле воевал с гитлеровскими фашистами и погиб). Сам Пазьняк, оказывается, тоже был полицаем (родился в 1944 году и сразу вступил в полицию!). Точно так же сегодня многих из этих людей уже убедили, что роль оппозиции, которую раньше играл БНФ, сейчас в парламенте играет компартия и по традиции сильно мешает президенту. А судя по тому, как Посохов в своем интервью все время ставит рядом БНФ и коммунистов, Калякина и Пазьняка, вскоре народу дадут возможность узнать, что Калякин на самом деле резидент ЦРУ и заслан в компартию по согласованию с БНФ. А Новиков же вообще родной брат Пазьняка, а ради осуществления родового полицейского дела пять лет назад, предвидя итоги выборов, реанимировал компартию.

Вообще проблема того, "кто есть кто" в политической жизни Беларуси — это одна из главнейших проблем политической ориентации. Не случайно одни аналитики пытаются объективно анализировать ситуацию и процессы, а другие — приклеивают ярлыки, рисуют картины ужасов, нечто вроде политического абстракционизма.

Вскоре после Посохова еще один боец выпустил свою обойму трассирующих страшилок по ***врагам*** президента. Павел Якубович — это идеологический ***терминатор*** — гранатометчик пищущий, в отличие от обычного гранатометчика Кучинского. Крутую команду подобрал себе белорусский ***Рэмбо***-президент. Они воюют на всех фронтах. Кучинский открыл фронт борьбы в защиту народа (т.е. вкладчиков) и в мечтах уже видит себя президентом 1999 года. Посохов сражается за чистоту компартийных рядов, и не исключено, что после политических расстрелов верных ленинцев возглавит компартию президента. Малумов торпедирует ***Конституционный*** суд, и, возможно, мы вскоре узнаем, что только во главе с Малумовым этот суд может быть действительно конституционным, т.е. защищать конституцию президента, всенародно поддержанную на очередном референдуме.

Якубович, не мелочась, открыл целый ***второй фронт***. Именно так главный редактор президентской газеты назвал свою очередную "колонку редактора". Как и Посохову, Якубовичу "не получается порадоваться" слаженной работе нового ВС. Якубович за *"дружную и слаженную работу, но лишь в том случае, если за этой "слаженностью" не проглядывается до боли знакомое интриганство и весьма небезопасные игры в "политику"*.

Типичная для нашего общества картина: по улице идут влюбленные и целуются, не обращая внимания на всех и вся. А вслед им разъяренный голос: "Развратники! Постыдились бы! Бога побойтесь!" Творчество Якубовича из ряда подобных феноменов. Говорят, что в молодости он лихо защищал юную демократию от компартнасильников и совратительниц-идеологических проституток. Читательницы восхищались своим кумиром. Постарел... Жизнь берет свое... Он вдруг за истинной любовью и верностью депутатов с противоположными взглядами к политической мисс Республики Беларусь — ***Конституции*** увидел, страшно сказать: как *"из-за почти что ласковой риторики о приверженности букве Конституции выглядывают острые уши и когтистые лапы"*.

Вот уже и ведьмы мерещатся! Видно, коммунистам Калякину и Новикову придется взять еще один коммунистический грех на душу и поставить в ВС на голосование вопрос: "Пригласить священников для освящения парламентского храма", дабы по инициативе кого-либо из идолопоклонников президента не стали по языческому обычаю сжигать на показательном костре парламентских ведьм возле памятника Лукашенко, которым запросто на очередном референдуме могут заменить памятник Ленину. В роли жертвенного агнца может оказаться тот же "буржуй-банкир" Богданкевич.

Что же кроме коварно-любовного отношения в ***Конституции*** инкриминирует второфронтовец "острым ушам и когтистым лапам"? А то, что в *"феврале они, по сути дела, объявили войну президенту"*. Из-за чего же или кого? Естественно, шерше ля фам. Не захотели депутаты-мужики посадить сходку на национальные деньги протеже президента, решили сначала узнать, как она хозяйствовала в предыдущем банке. А может, кое-кто просто решил подольше пообщаться с симпатичной дамой хотя бы на парламентском подиуме... А Якубович сразу в истерику: ***"Второй фронт!", "Война!"***

В общем, как поется в попшлягере *"Я на тебе как на войне, а на войне как на тебе!"* Именно по такому принципу живет второе поколение депутатов Беларуси с президентом и его командой. Это по версии Якубовича и некоторых воинствующих политологов.

На все происходящее можно посмотреть еще с нескольких точек зрения: сексуальной, спортивной, исторической.

В ***сексуальном*** ракурсе все это очень похоже на политический гомосексуализм с садистическим мордобоем: президент имеет... парламент, а депутаты имеют... президента (в виду). Первородный парламентский грех заключался уже в самом акте рождения ВС вопреки воле "батьки". Даже когда на белорусский политический свет появились первые головы депутатов и подали первый голос в интервью, "батька" попытался придушить младенца. Не вышло. И тогда "батькина" челядь составила для малыша правила хорошего поведения, естественно, дабы не перечил отцу. А парламент попался молодой да ранний и мгновенно вошел в период зрелости. Тогда президентские гусары, усвоив из опыта парламентской практики Англии ругню да уличные баррикады, по незнанию языка приняли за парламентскую традицию древний обычай культурных дам, которые не шевелятся, а лежат по стойке смирно. Так вот, эти гусары прямо намекнули парламенту, что именно так им и следует вести себя под президентским стволом. Депутаты же, сделав ловкие политические телодвижения, оказались на своем достойном месте, не согласившись на аномальное сожительство, — мужики подобрались настоящие! Да и у депутатов достойные мужья и отцы есть! Некоторые читатели могут задать вопрос о том, чем же события в этом публичном дурдоме с ведьмами в окопах второго фронта закончатся? И более того: как ко всей этой порнографии относиться?

Думаю, что следует исходить из ***спортивного*** интереса понимания того, что наша жизнь — ***игра***. Несколько лет назад депутат Лукашенко играл в футбол вместе с коллегами-депутатами. Скромняга Юра Беленький случайно задел Сашу по ноге. Тот, рассвирепев, начал гоняться за Юрой, дабы нанести ответный удар — носился полчаса, сорвал игру.

Спустя некоторое время Саша нанес таки ответный удар и по Юре, и по Зенону, и по всей их компании. Сначала их избили в парламенте, затем по "телику" и, наконец, на выборах.

Судя по тем политическим ударам, которые нанесли политические игроки из разных команд не по ногам, а теперь уже по ***главе***, политическая игра рано или поздно будет сорвана. Правда, Саша сначала погоняет кое-кого... Всех нас ожидает вместо хлеба захватывающие зрелища политических драк, в которых будет и "ниже пояса", и разгон целых команд, и даже судью (конституционного) на мыло. И в конце концов разгон митингующих болельщиков.

Этот призыв дружно подхватят болельщики-совки и с домашних диванов-трибун будут распевать свой новый гимн "Я на тебе как на войне, а на войне как на тебе". А потом кое-кто пойдет громить ларьки и бомбить неславянские морды. Возникает следующий вопрос. Неужели их никто не остановит? И здесь ответ поможет найти ***исторический*** взгляд. Он в "Паэме пра зубра" Н.Гусовского, которую знает на протяжении нескольких столетий вся Европа. А вывод из нее напрашивается один. Вырастут на земле Беларуси не только сыны совка и разная нечисть, но и мужественные ловкие охотники, которые играючи обломают рога разъяренным бычкам. Как сделали это предки, разгромив татаро-монгольские орды, набросившиеся на белорусские земли, как зеленая саранча.

Помните, сначала стреляют слова. Они приучат людей к тому, что нормальная жизнь — это ***не*** любимая женщина, дети, дом, машина, дача, а война за их приобретение, с битвами за урожай, газетами, редакторами, депутатами и другими внешними и внутренними ***врагами*** "с острыми ушами и когтистыми лапами".

А после такой жизни и настоящая война будет казаться не такой уж и страшной. А если еще представится возможность порсражаться за шкловского фюрера славяно-фашистов, то некоторые сочтут это за счастье. Только не я.

Мне не надо, товарищи господина президента, петь военных песен. У меня есть свой гимн, переданный мне многими поколениями предков земли Беларуси и свой ***Бог***. Они окрашены в цвета серой мудрости и алой любви к жизни.

Главное же в том, что я не хочу жить ни во фронтовой Беларуси, населенной ***Врагами***, ни в публичном доме, ни на спортивной арене для драк без правил. Я хочу жить в стране, которую мог бы с гордостью назвать ***Наш дом — Беларусь.***

## Аварыя каля Шклова

**У Магілёўскай вобласці на шашы Адэса — Санкт-Пецярбург шэф Шклоўскай ДАІ Уладзімір Валенкоў, кіруючы службовай "Нівай", на вялікай хуткасці пратараніў іншамарку.**

З месца аварыі маёр Валенкоў быў дастаўлены ў бальніцу з пераломам левай нагі і іншымі цяжкімі пашкоджаннямі. У шпіталь патрапілі таксама кіроўца і 4 пасажыры, якія ехалі ў іншамарцы. Галоўны лекар Шклоўскай бальніцы Віктар Буевіч паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што пацярпелы адчувае сябе някепска, але да выканання службовых абавязкаў прыступіць няхутка.

Трэба думаць, што пасля гэтага дарожнага здарэння сп.Валенкову наўрад ці свеціць месца ў сталіцы на пасадзе кіраўніка рэспубліканскай ДАІ.

**Аляксандр ШЧАРБАК**

## Шукаюць «народнага мсціўца»

**У Петрыкаве Гомельскай вобласці невядомы народны мсціўца прыгаварыў кіраўніка мясцовай "вертыкалі" Уладзіміра Хіля да смяротнага пакарання.**

24 лютага жыхары раённага цэнтра ўбачылі на дзвярах рэстарана "Петрыкаўскі" і сцяне друкарні вялізныя плакаты, якія паведамлялі, што ананімны "грамадскі абвінаваўца прыгаварыў старшыню Петрыкаўскага райвыканкаму У.Хіля да смяротнага пакарання і заклікае ўсіх сумленных грамадзян выканаць прысуд у любы час і ў любым месцы".

Па гэтаму факту мясцовая міліцыя адразу ўзбудзіла крымінальную справу і разам з работнікамі КДБ пачала шукаць аўтара. А да сп.Хіля прыставілі ўзброеную ахову.

У.Хіль сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што ён "здагадваецца, хто вынес яму такі прысуд", але назваць нейкае канкрэтнае прозвішча адмовіўся.

**Валодзя ЯНЧУК**

*СПОРТ*

# Беларусы – чэмпіёны Расіі

## Лёгкая атлетыка

☒ Нейкіх два тыдні таму наша чэмпіёнка свету Наталля Шыкаленка і срэбны прызёр Алімпійскіх гульняў Ігар Астапковіч сталі пераможцамі адкрытага чэмпіянату Расіі ў кіданні дзіды і молата. У мінулую нядзелю іх падтрымалі Аляксандр Главацкі і ягоны цёзка Слюнькоў, якія ў Маскве сталі чэмпіёнамі Расіі. Удзельнік двух чэмпіянатаў свету Главацкі скокнуў на 8 м 01 см. Слюнькоў прабег хутчэй за ўсіх 200 м — 21,30. А пра рэкорд у скачках з шастом Дзмітрыя Маркава — 5 м 75 см вы ўжо ведаеце.

☒ Кітаянка Сунь Цай Юнь у зале Цяньцзіна на 1 см палепшыла свой сусветны рэкорд у скачках з шастом для залаў — 4 м 28 см. Гэта ўжо дзевятае яе лепшае дасягненне. Аднак рэкорд для адкрытых стадыёнаў, які паставіла аўстралійка Эма Джордж, значна вышэйшы — 4 м 41 см.

☒ Кэры Сэксбі-Джуна прайшла ў Хобарце (Аўстралія) 5 км за 20.13,26 — рэкорд свету.

## Вольная барацьба

☒ Алег Гогаль з Гомеля перамог на міжнародным турніры ў сталіцы Украіны ў лёгкай вагавай катэгорыі (62 кг). У вазе 100 кг заняў другое месца Сяргей Кавалеўскі. На жаль, атрымаў траўму экс-чэмпіён свету Сяргей Смаль (57 кг) пасля перамогі ў двух схватках. Праз два тыдні ў барцоў чэмпіянат Еўропы, дзе будуць разыгрывацца алімпійскія ліцэнзіі. Каб патрапіць у Атланту, трэба заняць з першага па восьмае месцы. Гэта вельмі няпроста, але для большасці нашых волатаў магчыма.

## Хакей

☒ Ва Усходне-Еўрапейскай хакейнай лізе наступіла пара вырашальных матчаў. Сітуацыя перад двума фінішнымі турамі амаль што дэтэктыўная. Гродзенскі "Нёман" згубіў у Жлобіне два каштоўныя ачкі, калі прайграў "Белсталі" — 3:4. Праўда, назаўтра гродзенцы ўзялі рэванш — 4:1. Рыжскі "Юніёрс" тым часам забраў у Наваполацку тры ачкі ў "Палімера" — 7:4, 3:3. Пасля 10 тураў у "Нёмана" 13 ачкоў, "Юніёрс" мае 12, "Палімер" — 9, "Белсталь" — 6. Усё вырашыцца пасля гульняў "Нёман"—"Палімер", "Белсталь"—"Юніёрс".

☒ Мінскі "Цівалі" у новым сезоне, хутчэй за ўсё, папоўніць Усходне-Еўрапейскую хакейную лігу, бо МХЛ будзе ператорвана ў чэмпіянат чыста расійскі. Пакуль жа чарговая серыя паразаў, апошняя з каторых адбылася ў Мінску, дзе гаспадары прайгралі ЦСК ВВС (Самара) — 2:4.

## Баскетбол

☒ Трыумфальнае шэсце "Гродна-93" працягваецца: 20 матчаў — 20 перамогаў. А вось далей бліжэйшая — у "Аўтазаводца" (Мінск) — 14 перамогаў, "Сожа" (Гомель) і РТІ РШВСМ (Мінск) — па 13. У матчы ОЗАА (Асіповічы) — "Сож" вызначыўся Валерый Гарэлікаў, які набраў за матч 44 ачкі.

## Гандбол

☒ У жаночым чэмпіянаце краіны адзіны і бяспрэчны лідэр — мінскі "Палітэхнік". Каманда не мае ў чэмпіянаце супернікаў роўных па класе. Пасля 14 тураў у "Палітэхніка" максімальна магчымая колькасць ачкоў —28, далей ідуць "Універсітэт" (Гомель) — 22, "Палітэхнік" — РШВСМ (Мінск) — 19, "Друць-Белпак" (Бялынічы) — 17.

## Футбол

☒ Зборная Беларусі бліжэйшыя таварыскія матчы правядзе са зборнымі Славакіі (27 сакавіка) і Польшчы (1 траўня) па іх полі. Перад пачаткам барацьбы за Кубак свету беларусы згуляюць яшчэ з азербайджанцамі на сваім полі. 1 чэрвеня ў Стаўголме наша нацыянальная каманда правядзе першы ў сваёй гісторыі адборачны матч чэмпіянату свету з трэцяй камандай папярэдняга першынства — зборнай Швецыі.

☒ Цэнтральны матч чэмпіянату Італіі — "Мілан"—"Ювентус" выклікае асаблівую цікавасць: на поле выйшлі больш за дзесятак зорак першай велічыні — турынцы Віалі, Раванэлі, дэль П'еро, Сауза; міланцы Веа, Бобан, Дэсайі, Бароэзі. Напружаная барацьба закончылася нічыёй — 1:1. У "Мілане" вызначыўся Джордж Веа — лепшы футбаліст свету, Еўропы і Афрыкі мінулага года. А літаральна праз дзень пасля гульні Веа патрапіў у аўтааварыю. Але яму пашанцавала: машына разбітая ўшчэнт, а ў Веа —нівоадной драпіны.

☒ Хрыста Стоічкаў пагражае, што футбалісты зборнай Балгарыі будуць байкатаваць нацыянальную каманду, калі не атрымаюць 1 мільён долараў прызавых за выхад у фінал чэмпіяната Еўропы 1996 года.

## Лыжы

☒ Мануэла дзі Чэнта (Італія) выйграла гонку на 10 км вольным стылем у нарвежскім Транхейме. Цяпер яна адстае ў агульным заліку ад Алены Вяльбе на 90 ачкоў. У мужчын спераду нарвежац Б'ерн Дэлі — 950 ачкоў, ва Уладзіміра Смірнова з Казахстану — 831.

## Тэніс

☒ Аўстрыйцу Томасу Мустэру не шанцуе. Другі турнір запар ён заканчвае ў першым жа крузе. На гэты раз у Мілане ён прайграў "гаспадару" кортаў Андрэа Гаўдэнцы — 3:6, 4:6. Мустэр цяпер другі ў спісе мацнейшых, а лідзіруе зноў амерыканец Пітэр Сампрас. Харват Іванішавіч падняўся з 9 месца на 6-е, замяніўшы шведа Энквіста. Расіянін Яўген Кафельнікаў цяпер займае восьмы радок.

☒ У жанчын усё застаецца без зменаў. Спераду — Граф і Сэлеш, за імі — Марцінэс, Санчас, Маёлі.

**Сямён ПЛОЦ**

# Еўропа ад А да Я

**А**ляксандра Нікіта, румынская мастачка, якая цяпер жыве ў ЗША, звычайна прадае свае творы за $ 100.000. Самае цікавае, што такая "дарагая" мастачка мае ўсяго толькі дзесяць год.

**Б**рытанскі рок-гурт *Babilon Zoo* выпусціў сінгл, які перакрыў усе рэкорды хуткасці распродажу. Ужо колькі тыдняў запар яго ніхто не можа пацісунць з першых прыступак хітпарадаў.

**В**альтэр Ціль, 75-гадовы мільянер з Германіі, абвясціў конкурс на прыслугу, якая б даглядала за ягонай 28-гадовай жонкай ды скарбам пасля ягонай смерці. Ужо ёсць сотні кандыдатаў.

**Г**олас Джона Ленана ў сінгле *Real Love* з фільма *Imagine* будзе гучаць у сучаснай аранжыроўцы, зробленай трыма астатнімі ўдзельнікамі *The Beatles*.

**Д**жына Лалабрыджыда звярнулася па кансультацыю да нямецкага астролага Аляксандра Морына накошт лёсу яе новага фільма. Ён прадказаў "вялікі поспех", але папярэдзіў, што ёй патрэбны больш пільны нагляд за здароўем.

**Е**льцын мяняе від спорту. Пасля кансультацый з лекарам расійскі прэзідэнт змяніў тэніс на шахматы.

**Ж**ан-Поль Гацье назваў Клаўдзію Шыфер мадэллю 1994 года, а сама Клаўдзія выпусціла новы відэафільм з урокамі гімнастыкі.

**З**аапаркі любяць усюды, асабліва ў Лондане, дзе конкурс па ўсынаўленні жывёл выклікаў самы жывы інтарэс. Сярод кандыдатаў на змену гаспадароў папугаі Флорыс і Уолі, тарантулы, сіямскія рыбы ды ўюны.

**І**лі Настазе, былы чэмпіён свету па тэнісе, ва ўзросце 49 год балатуецца на пасаду мэра Бухарэста.

**К**альман — гэта не толькі вялікі венгерскі кампазітар. Гэтае прозвішча таксама належыць найстарэйшай асобе на планеце. Францужанка Жанна Кальман у хуткім часе адсвяткуе свой 121 дзень нараджэння.

**Л**ууўр зноў у першы раз за шэсць год гадоў будзе бясплатна адчыняць свае дзверы ў першую нядзелю кожнага месяца.

**М**арк Вейра, уладальнік рэстаранчыку на ўзбярэжжы Міжземнага мора пад назвай *Auberge de l'Eridan*, быў названы часопісам *Paris Match* лепшым кулінарам Францыі.

**N***issan* назваў сваю новую мадэль "Альмера", бо гэтая назва лёгка чытаецца на ўсіх еўрапейскіх мовах.

**O***rient express* плануе наладзіць прамое чыгуначнае спалучэнне паміж Амстэрдамам і Лонданам.

**П**ольшча — першая з усходнееўрапейскіх краін, якая цалкам адмовілася ад выкарыстання самалётаў, зробленых у былым СССР. Кампанія *LOT*, якая падлягае раздзяржаўленню сёлета, выкарыстоўвае 14 "Боінгаў".

**Р**ух пад Ла-Маншам набірае моц. У мінулым годзе яго выкарысталі 1.222.694 транспартных сродкаў.

**С**афі Ларэн, якой у гэтым годзе споўніцца 61 год, дала найбольшую колькасць самых шчырых інтэрв'ю на сэксуальныя тэмы. У апошнім з іх, дадзеным італьянскай газеце *La Stampa*, яна падзялілася сакрэтам, як застацца сэксуальнай у такім узросце.

**Т**рондхэйм, нарвежскі горад, які ў наступным годзе будзе святкаваць свае тысячагоддзе, запрашае мясцовых жыхароў, што жадаюць працаваць гідамі з нагоды векапомнай даты, прайсці тэст на веданне гісторыі гораду.

**У**стрыцы сталі выкарыстоўваць ірландскай кампаніяй *Murphy's* як складнік сродкаў для падвышэння сэксуальнай актыўнасці.

**Ф**рансуа Мітэран пасля смерці набывае большую папулярнасць, як сведчыць французскі *Le Monde*. Газета паказвае памерлага былога прэзідэнта на вокладку, на якім — графік росту папулярнасці.

**Х**анэлор Коль разам са сваім мужам, які па сумяшчальніцтву — канцлер ФРГ, выпусціла кнігу пра смачную і здаровую ежу, якой так захапляецца Гельмут Коль.

**Ц**ытатай тыдня назваў штотыднёвік *European* выказванне пераможцы конкурсу паэзіі Андрэя Макіна з Расіі. Ён сказаў: "З усіх моваў адзінай вечнай ёсць толькі мова паэзіі".

**Ч**эмпіянат Еўропы па футболе 1996 года будзе праходзіць у тых жа самых месцах і ў той жа час, што і арганізаваны Мікам Джэгерам Брытанскі нацыянальны музычны фестываль. Гэта невыпадкова, бо фестываль прымеркаваны спецыяльна для гэтай выключна важнай спартовай падзеі.

**Ш**ведскі фермер-свінавод Біргер Муквіст быў вельмі здзіўлены, калі знайшоў сваіх пітомцаў... п'янымі. Нават у Швецыі замест свежага малака вам могуць прывезці перабрадзіўшае ферментаванае, якое хутка ператвараецца ў сапраўдную брагу.

**Э**лізабет Хэрлі вядзе перамовы з кінакампаніяй *Touchstone Pictures* аб здымках у галоўнай ролі другой часткі кінахіта "Красуня" *(Pretty Woman)*. Аднак пакуль яшчэ невядома, хто заменіць Рычарда Гіра ў ролі закаханага мільянера.

**Ю**дашкін, вядомы расійскі мадэльер, заявіў, што калі ён рабіў сваю новую парыжскую калекцыю, яго натхніла Ганна Карэніна, Кацярына ІІ і "Лебядзінае возера".

**Я**шчэ адзін еўрапеец быў прыняты ў Залу славы рок-н-рола ў ЗША. Ім стаў швейцарскі падданы Дэвід Боўі.

***Падрыхтаваў Глеб ЕРМАКОЎ***

# У Ягорава пачаўся мядовы месяц

## *Вядомы дэпутат, былы шэф КДБ Уладзімір Ягораў нечакана ажаніўся!*

Аказваецца, ён яшчэ летась развёўся з жонкаю, але, як сапраўды прафесіянал, паспяхова гэта хаваў ад чужых вачэй і ў такой жа бліскучай сакрэтнай манеры вёў пошукі новай спадарожніцы жыцця.

Ягорава можна назваць жаніхом года, бо ў выніку ён ажаніўся з жанчынай года (спецслужбы, як вядома, заўсёды прыслухоўваліся да думкі грамадскасці) — менавіты гэты пачэсны тытул быў прысуджаны рэктару універсітэта культуры Ядвізе Грыгаровіч за дасягненні ў галіне культуры.

Вядома, што шлюб быў заключаны ў мінулыя выхадныя, а вяселле праходзіла ў вузкім коле бліжэйшых сяброў. Мядовы месяц маладыя праводзяць у Мінску, як кажуць, без адрыву ад вытворчасці. Ядвіга Грыгаровіч вядомая як актыўны грамадскі дзеяч і вельмі прыбабная жанчына, якая мае дарослага сына. Па адукацыі яна псіхолаг. Дарэчы, сп-ня Грыгаровіч добра валодае беларускай мовай і карыстаецца ёю, што ўжо пачало адбівацца на паводзінах мужа: у кулуарах Вярхоўнага Савета Уладзімір Ягораў пачынае гаварыць па-беларуску.

**А.Г.**



*УДАКЛАДНЕННЕ*

У інфармацыі агенцтва *CIM*, апублікаванай у СВАБОДЗЕ ад 23 лютага, паведамлялася, што "праваахоўнымі органамі арыштаваны начальнік Мінскага міжраённага аддзелу падатковых расследванняў". Па віне карэспандэнта агенцтва, у гэтым паведамленні дапушчана недакладнасць, якая стала прычынаю скажэння сэнсу. У сапраўднасці, пасада арыштаванага па падазрэнні ў хабарніцтве — начальнік Фрунзенскага міжраённага аддзелу падатковых расследванняў Мінска. У сувязі з гэтым агенцтва *CIM* прыносіць свае прабачэнні начальніку Мінскага міжраённага аддзела падатковых расследванняў, які (і мы ніколі ў гэтым не сумняваліся) з'яўляецца сумленным чалавекам, не мае адносінаў да факту хабарніцтва і, натуральна, знаходзіцца на свабодзе.

*Агенцтва CIM*

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 93.000
Нумар падпісаны ў друк 28.02.96 (15.00) Надрукавана ў ЗАТ Lietuvos Rytas (Вільня, праспект Гедыміна,12А)